# СВАБОДНАЕ СЛОВА

матэрыялы друкуюцца ў скарачэнні

КАСТРЫЧНІК № 101

У нумары выкарыстаны перадрукоўкі з рэспубліканскіх і мясцовых зарэгістраваных СМІ

## США НАСТАИВАЮТ НА СУДЕ НАД МИЛОШЕВИЧЕМ

Народная Воля

США по-прежнему настаивают на том, чтобы президент СРЮ Слободан Милошевич предстал перед Международным уголовным трибуналом для бывшей Югославии в Гааге. Очередное заявление на этот счет прозвучало от представителя госдепартамента Филипа Рикера. Эта позиция США остается неизменной, несмотря на то что она была подвергнута критике представителями Демократической оппозиции Сербии. Как заявил накануне кандидат в президенты Воислав Коштуница, поднимая постоянно этот вопрос, США тем самым укрепляют Милошевича в мысли, что выборы для него — это «дело жизни и смерти».

## АРГАНІЗАТАРАМ МАРША СВАБОДЫ уручаныя позвы ў суд

Хартыя'97

Дэпутатка Вярхоўнага Савета Людміла Гразнова атрымала з рук міліцыянтаў, якія прыйшлі да яе дадому, позву ў суд. Гразнова абвінавачваецца ў тым, што падчас выступу на «Маршы Свабоды-1» у Менску 1 кастрычніка яна заклікала грамадзянаў Беларусі байкатаваць маючыя адбыцца «выбары ў палату прадстаўнікоў» і назвала гэтыя выбавы выбарчым фарсам. Па словах міліцыянтаў, такія ж позвы яны зьбіраліся ўручыць іншым арганізатарам Марша Свабоды - старшыні БНФ Вінцуку Вячорку і старшыні Беларускае сацыял-дэмакратычнае Грамады Станіславу Шушкевічу. Суды над апазыцыянэрамі былі прызначаныя на 9 гадзінаў раніцы 4 кастрычніка, аднак пазьней былі перанесеныя.

# «МАРШ СВАБОДЫ-3» У БЕЛАРУСІ

## «МЫ - НЕ РАБЫ»

29 сентября члены Свободного профсоюза полоцкого производственного объединения «Стекловолокно» провели двухчасовой пикет возле проходной своего завода. Недовольство у активистов профсоюза вызвала кампания по заключению контрактов. «Мы — не рабы» было начертано на плакате пикетчиков, которые раздавали двум сменам производственного объединения тексты поправок к контракту, предлагаемые организацией Свободного профсоюза ПО «Стекловолокно». Полоцкие лидеры профсоюза сообщили корреспонденту «Курьера», что процесс заключения контрактов, который происходит у них на предприятии, трудно назвать добровольным, ибо работникам недвусмысленно намекают, что все, кто не оформит контракт, будут уволены. Вероятно, 40 процентов рабочих завода уже заключили трудовой договор с администрацией.

Курьер




У 22-х гарадох Беларусі 3 кастрычніка прайшлі акцыі пад агульным лозунгам

**БАЙКОТ-2000**

Стар. 2-3

## НЕБЫВАЛОЕ ПАДЕНИЕ РЕЙТИНГА ЛУКАШЕНКО

Народная Воля

Настоящую панику в структурах власти вызвали данные последних социологических опросов НИСЭПИ, проведенных осенью этого года. Впервые за последних несколько лет зафиксировано более чем 5-процентное снижение рейтинга Александра Лукашенко со времени последнего опроса, проведенного в середине лета.

По данным НИСЭПИ, за президента Лукашенко готовы проголосовать лишь 33,8% граждан (66,2% отметили другой вариант).

Проголосовать за Лукашенко на выборах президента России и Беларуси готовы 19,5% граждан (80,5% опрошенных указали другой вариант). Лишь 31,3% граждан считают, что Лукашенко является идеалом политика (68,7% опрошенных придерживаются иного мнения). Доверяют президенту Лукашенко всего 36,3% граждан (38,6% отметили Другой вариант).

Анализируя эти данные, НИСЭПИ приводит численность убежденных сторонников Лукашенко — всего 13,5%. Убежденных противников в три раза больше — 36,5%. Остальных граждан — ровно 50% — можно отнести к категории колеблющихся. В Минске число противников Лукашенко уже превысило 55%.

Кстати, исход из власти бывшего руководителя Беларуси Кебича начался, когда его рейтинг опустился ниже 40-процентной отметки. А устойчивым рейтингом считается цифра не ниже 70% популярности (например, рейтинг Квасьневского в Польше составляет 73%, рейтинг Адамкуса в Литве — более 80%).

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

# Івонка Сурвілла зьвярнулася да беларускага народу з заклікам байкатаваць выбара 15 кастрычніка.

Радыё Свабода

«У гісторыі кожнага народу, як і ў жыцьці кожнага чалавека, ёсьць ключавыя мамэнты, ад якіх можа залежаць будучыня гэтага народу ці гэтага чалавека, – адзначаецца ў звароце Старшыні Рады БНР. – І вось такім ключавым мамэнтам для Беларусі будзе дзень 15 кастрычніка 2000 году, калі народ будзе мець змогу сказаць дыктатарскаму рэжыму, што хопіць зьдзеквацца над ім ды ілгаць яму, што ён таксама мае права быць вольным у сваёй дзяржаве ды сам вырашаць свой лёс, што ён тады толькі пойдзе галасаваць, калі выбары ня будуць насьмешкай над ягоным розумам і над ягонай годнасьцю».

«Не дарма ўлады, – піша далей Івонка Сурвілла, – не дапускаюць апазыцыю да сродкаў масавай інфармацыі. Лукашэнка і ягоныя маскоўскія паплечнікі добра разумеюць, што найбольшая для іх небясьпека – гэта праўда. Звычайная праўда. Праўда, якую ўвесь сьвет ведае, апрача вас, дарагія мае суродзічы. Бо ўлады дазваляюць вам чуць і бачыць толькі тое, што яны хочуць, каб вы чулі і бачылі.

Праўда пра Беларусь – гэта ізаляцыя, у якой знаходзіцца нашая краіна, дзякуючы стараньням уладаў, і дзеля якой вашае жыцьцё робіцца штораз цяжэйшым. Праўда пра Беларусь – гэта эміграцыя здольнай і працавітай моладзі, якая ня можа сабе зарабіць на людзкія ўмовы жыцьця на Бацькаўшчыне, бо рэжыму не патрэбныя людзі зь ведамі і зь ініцыятывай. Лягчэй кіраваць тымі, якія моўчкі задавольваюцца кусочкам хлеба з салам ды кубкам радыяцыйнага малака... Праўда – гэта куды лепшае жыцьцё ў іншых краінах, якіх кіраўнікі дбаюць аб дабрабыце сваіх людзей, а не стараюцца прадаць іх чужой імпэрыі за пару чырвонцаў. Праўда – гэта небясьпека, якая пагражае нашай дзяржаве страціць найбольш цэнныя яе каштоўнасьці, яе свабоду і незалежнасьць».

«Дыктатар ня хоча, каб людзі чулі праўду, бо добра ведае, што калі б да народу дайшла яна, дык народ бы пагнаў яго так, як румыны пагналі Чаўшэску, а сэрбы цяпер гоняць Мілошавіча», – адзначае Старшыня Рады БНР і заклікае: – Дарагія суродзічы, не дазваляйце вашым ворагам зьдзеквацца над вамі. Пакажыце сьвету, што вы – паўнавартасны, жыцьцяздольны народ. Ня йдзеце галасаваць 15 кастрычніка, бо голас ваш будзе лічыцца падтрымкай варожага вам акупацыйнага рэжыму. Зрабіце з гэтае даты ключавы момант у гісторыі нашага народу, каб сталася яна пачаткам новай эры ў жыцьці вольнай, незалежнай і заможнай Беларускай Дзяржавы», – піша ў лісьце да беларускага народу Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла

# Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі супраць сьпікера Дзяржаўнае Думы Расеі

Хартыя'97

Дэпутат Вярхоўнага Савету Уладзімер Нісьцюк падае пазоў у адзін з раённых судоў Масквы супраць сьпікера Дзяржаўнае Думы Расеі Генадзя Селязьнёва. Дэпутат лічыць, што думскі старшыня зьняважыў ягоныя гонар і годнасьць, назваўшы «самазванцам». Уладзімер Нісьцюк патрабуе ад спадара Селязьнёва маральнае кампэнсацыі памерам 100 тысячаў даляраў, паведамляе радыё «Свабода». Прычынаю пазову Уладзімера Нісьцюка да Генадзя Селязьнёва стаў выступ сьпікера Дзяржаўнае Думы на Зьезьдзе саветаў у Менску 29 верасьня. Генадзь Селязьнёў казаў пра тое, што Парлямэнцкая асамблея АБСЭ наўмысна прызнае дэпутацкі мандат «самазванца Нісьцюка, які палівае брудам сваю краіну». Уладзімер Нісьцюк абураны гэтымі словамі кіраўніка расейскага парлямэнту, бо Парлямэнцкая асамблея АБСЭ абсалютна законна ўжо два разы пацьвярджала менавіта паўнамоцтвы дэлегацыі Вярхоўнага Савету Беларусі. Уладзімер Нісьцюк таксама зьвярнуўся ўчора да кіраўніка КНГ АБСЭ ў Менску Ганса-Георга Віка з афіцыйнай заявай, у якой прасіў паінфармаваць кіраўніцтва ПА АБСЭ пра паводзіны сябра гэтай арганізацыі Генадзя Селязьнёва. А афіцыйны ліст з просьбаю прыцягнуць сьпікера Думы да дысцыплінарнай адказнасьці ў рамках Парлямэнцкай Асамблеі.

Тым часам стала вядома, што яшчэ адзін пазоў, гэтым разам ужо ў беларускі суд, мае намер падаць былы сьпікер Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч. Спадар Шушкевіч зьбіраецца прыцягнуць да адказнасьці Аляксандра Лукашэнку, які пад час аднаго са сваіх нядаўніх выступаў заявіў, што былы кіраўнік Беларусі нібыта атрымаў за развал Савецкага Саюзу ад Захаду мільярд даляраў.

# В БРЕСТЕ ПРОТЕСТУЮТ ТАКСИСТЫ

БЕЛАПАН

1 октября в 15 часов в микрорайоне «Восток» собралось около двух сотен микроавтобусов. Это почти все автомобили, которые работают на 16 маршрутах города. Несанкционированная акция протеста, как сообщил БелаПАН бригадир маршрута № 15 водитель Константин Кокшенев, – мера вынужденная, но это не забастовка. «Мы не работаем, потому что нам невыгодно возить людей за 250 рублей», – пояснил корреспонденту БелаПАН позицию водителей Кокшенев.

В разговоре с журналистами водители жаловались на то, что городские власти предъявляют к ним слишком много требований. Так, за право работать на маршруте приходится платить до 1 тысячи долларов США на содержание дорог. Ежемесячные налоги, по словам водителей, приближаются к сотне долларов США, кроме того, контролирующие органы придираются практически по любому поводу: автомобиль старый, цвет неподходящий, нет ковриков в салоне и т.д.

Цены на проезд у частников поднялись после 20 сентября – с 250 до 300 рублей. По словам водителей, это не вызвало возмущения у пассажиров, зато власти отреагировали оперативно. В течение нескольких дней были составлены протоколы и наложены штрафы в 40 «минималок» на семерых водителей, они получили предупреждения о возможном лишении лицензий.

БелаПАН уже сообщал о том, что в минувшую пятницу индивидуальные предприниматели, работающие на маршрутах, прекратили работу из-за запрета горисполкома повышать цены на проезд.

Водители, тем не менее, надеются получить «добро» на повышение стоимости проезда, обосновывая новые цены повышением «минималки» и подорожанием бензина.

***Валентина КОЗЛОВИЧ***

Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
СВАБОДНАЕ СЛОВА
Адрас рэдакцыі: Віцебск пр-т Чарняхоўскага, 12-17
Рэдактар: Х.Жэляпаў +©barsdesign2000
Распаўсюджваецца бясплатна